www.nv-online.info

№ 29 (3974)

14 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РАЗБОРКІ

## Ён сышоў...

Сёння рэспубліканскі савет грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду!” павінен абраць новага кіраўніка. Нагадаем, што былы лідар **Уладзімір Някляеў** на мінулым тыдні абвясціў пра выхад з усіх апазіцыйных структур, у тым ліку з кампаніі, якую ўзначальваў.

Былы намеснік Някляева Андрэй Дзмітрыеў заявіў пра тое, што будзе балатавацца на першую пасаду.

“Узначаліць такую структуру – гэта вялікая адказнасць, тым больш напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Будзе з’езд, будзем выбіраць, і я буду вылучацца на кіраўніка арганізацыі”, – прызнаўся ён.

Сёння ж павінны быць вырашаны і пытанні, якія тычацца прэзідэнцкіх выбараў. Папярэдне было абвешчана, што “Гавары праўду!” будзе вылучаць на выбарах Таццяну Караткевіч.

ДАСЬЕ

## Хто такі Андрэй Дзмітрыеў?

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ** нарадзіўся 12 мая 1981 года ў Мінску. Вучыўся ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце на факультэце філасофіі. У 2000–2001 гг. служыў у арміі. З 2001 да 2011 года – сябра Аб’яднанай грамадзянскай партыі.

У 2005–2009 гадах меў свой бізнес, з’яўляўся дырэктарам кансалтынгавай кампаніі. З 2010-га – намеснік кіраўніка грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду!”, лічыцца адным з “шэрых кардыналаў” гэтай грамадзянскай ініцыятывы.

Падчас выбараў-2010 кіраваў штабам кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. У ноч на 20 снежня пасля акцыі пратэсту ў цэнтры Мінска быў затрыманы і змешчаны ў СІЗА КДБ. Пасля чаго агучыў па тэлебачанні падрыхтаваны беларускімі спецслужбамі тэкст пра недатычнасць сілавікоў да правакацый ля Дома ўрада. Потым патлумачыў гэта тым, што яго шантажыравалі жыццём дзяўчыны (пасля тых падзей яны пажаніліся). На судзе папрасіў прабачэння ў паплечнікаў і працягвае актыўную дзейнасць.

ТЫМ ЧАСАМ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, які спачатку катэгарычна адмаўляўся каментаваць сваё рашэнне аб сыходзе з палітыкі, зрабіў новую заяву.

## Цягнік далей не ідзе...

Прычына, па якой я выйшаў з апазіцыі, ясна названа ў заяве, і я адмаўляўся ад усялякіх каментарыяў з гэтай нагоды. Але каментары «ўдзельнікаў працэсу», лідараў і актывістаў структур, якія ўваходзяць у апазіцыйную кааліцыю, усё ж патрабуюць удакладненняў.

Паводле заведзенай у апазіцыі традыцыі, кожны намагаецца выкарыстоўваць промах іншага для яго дыскрэдытацыі. Справа падаецца так, быццам ва ўсім вінаваты адзін бок. У дадзеным выпадку – кампанія «Гавары праўду!». А астатнія – малайцы. Але якія малайцы, калі на кожным пасяджэнні кожны казаў пра разуменне важнасці, неабходнасці кангрэса, а рашэнне (за два гады!) так і не прынята?

Калі коратка, канва падзей такая. Адной з асноўных мэт аб’яднання чатырох апазіцыйных структур вакол праграмы «Народны рэферэндум» было вылучэнне адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад Партыі БНФ, руху «За Свабоду», сацыял-дэмакратаў і грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!». Адразу былі вызначаны прэтэндэнты на месца адзінага кандыдата ад «Народнага рэферэндуму»: Мілінкевіч і Някляеў.

Пасля доўгіх кансультацый і перамоў стала зразумела, што адзіным я не буду. Партыя БНФ і рух «За Свабоду» блакіравалі такую магчымасць. Тым самым яны блакіравалі кангрэс і вылучэнне адзінага кандыдата ад усёй апазіцыі, што для мяне было прынцыпова важна. Значна важней маіх асабістых (якіх я не хаваў) амбіцый, таму я зняў сваю кандыдатуру на карысць Мілінкевіча, мяркуючы, што такім чынам вырашаю пытанне адзінага кандыдата, перамога якога на кангрэсе (пры падтрымцы чатырох апазіцыйных структур) не выклікала сумневаў.

Але як толькі адкрылася дарога да перамогі на кангрэсе, Аляксандр Мілінкевіч адмовіўся па ёй ісці. Праз тры дні пасля прыняцця рашэння аб яго вылучэнні.

Прапановы заняць месца кандыдата ў прэзідэнты ад “Народнага рэферэндуму”, якое раптам вызвалілася, я не прыняў. Вось тады і з’явіліся як бы нечаканыя кандыдаты ад Партыі БНФ, руху «За Свабоду», кампаніі «Гавары праўду!».

Адмовіўшыся ад прэтэнзій на вылучэнне адзіным кандыдатам, я не адмовіўся ад самой ідэі. І ўнёс прапанову вылучыць адзіным кандыдатам у прэзідэнты палітвязня Мікалая Статкевіча. Абгрунтаваў яго ўдзел. Сказаў, якой я бачу ў такім выпадку прэзідэнцкую кампанію. Доўга абмяркоўвалі, што і як, і ў выніку прагаласавалі «за» толькі тры структуры. Зноў нічога не выйшла.

Тады я зрабіў наступны крок: прапанаваў кіраўнікам структур, якія ўваходзяць у ініцыятыву «Народны рэферэндум», падпісаць працэдуру вылучэння адзінага кандыдата асобна. Да гэтага рашэння далучыліся хрысціянскія дэмакраты. І калі б да пяці подпісаў дадаўся подпіс прадстаўніка АГП або «Справядлівага свету», пытанне кангрэса было б вырашана. Паўгода таму! Але гэтага не здарылася...

АГП і «Справядліваму свету» не падыходзіў адзін з механізмаў вылучэння дэлегатаў на кангрэс: праз збор подпісаў. Хоць гэта ніяк не менш дэмакратычна, чым вылучэнне на сходах. На таптанне вакол гэтага было выдаткавана, як я ўжо сказаў, паўгода, і, калі я ўбачыў, што дамовіцца не ўдасца, зняў прапанову па зборы подпісаў.

Гэта давала перавагі АГП і «Справядліваму свету», але замест таго, каб адрэагаваць на гэтую прапанову аператыўна (сёння прапанова – заўтра адказ), АГП і СС цягнулі паўмесяца, што дало магчымасць структурам «Народнага рэферэндуму» заявіць: «Усё. Цягнік сышоў».

Вось толькі тады я выйшаў з гэтага цягніка. Гэта зусім не быў, як некаму хочацца прадставіць, усплёск эмоцый. Гэта было ўзважанае рашэнне, заснаванае на разуменні: цягнік далей не ідзе. Значыць, трэба выходзіць.

Чаму я стаяў за кангрэс? Таму што гаворка сёння не столькі аб выбарах (якіх можа быць яшчэ шмат), колькі пра выбар, які ў існуючых гістарычных умовах можа быць адзіным і апошнім. І кангрэс мне бачыўся не толькі як інструмент выбару адзінага кандыдата, а перш за ўсё – як механізм размеркавання адказнасці за лёс краіны. Адказнасці кожнага апазіцыйнага лідара і актывіста, адказнасці кожнага члена грамадства, без чаго нам немагчыма будзе адстаяць Беларусь.

І вось я тлумачу і тлумачу ў гэтым цягніку пра гэта, а чую аб сходах, подпісах, пра тое, хто ў якім – праз подпісы ці сход – апынецца вагоне. Ды якая розніца, калі цягнік ідзе пад адхон?..

Я зусім не сцвярджаю, што адзін ва ўсім маю рацыю, а ўсе – не. Так не бывае. Так, я таксама памыляўся, рабіў не зусім верныя крокі, але, калі сыходзіў у бок ад галоўнай дарогі, рабіў высілак – і вяртаўся. Цяпер проста пройдзены пункт незвароту.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

О ДЕКЛАРИРОВАНИИ ДОХОДОВ ЧИНОВНИКОВ

*Александр ЛУКАШЕНКО,*
*глава государства:*

**«Народ должен знать, как живут чиновники и их родственники, откуда деньги и собственность у этих людей. Это, по-моему, нормальная международная практика».**

(**31 июля 2014 года. На совещании о совершенствовании законодательства по борьбе с коррупцией.**)

*Александр КОНЮК,*
*генеральный прокурор:*

**«Я не вижу в этом необходимости. Что это даст – удовлетворит обывательский интерес? ...Это не совсем корректно и этично. Кроме того, это и прямой риск. Когда известно, сколько у тебя денег, это станет наводкой для преступников»**

**(9 апреля 2015 года. Во время представления в парламенте законопроекта «О борьбе с коррупцией».)**

ПИСЬМА С КРЕЩАТИКА



*Александр*
*ФЕДУТА*

## Декларации и доходы

Генеральный прокурор Республики Беларусь Александр Канюк не так давно заявил о том, что публиковать декларации о доходах государственных служащих не вполне этично. Дескать, это прямая наводка: есть у кого красть. Так же, похоже, считают и депутаты, не включившие норму о публичном декларировании доходов в проект закона о борьбе с коррупцией.

Не вполне понятно, почему прокурор Канюк и депутаты считают, что доходами государственных служащих интересуются исключительно те, у кого может возникнуть намерение совершить уголовно наказуемое деяние. Не думаю, что работник МТЗ, получающий два миллиона девятьсот тысяч рублей в месяц, пойдет грабить генерального прокурора, явно получающего несколько большую сумму. Но вот вопрос о разнице в доходах, скажем, того же работника МТЗ и заместителя министра промышленности возникнуть может.

При этом, скажем, в Украине такая перспектива никого не пугает. Можете спрашивать.

7 апреля была опубликована декларация президента Украины Петра Порошенко. Доходы Петра Алексеевича превысили 368 миллионов гривен, что соответствует примерно 16 миллионам долларов. Из них 18 миллионов гривен было выплачено государству в виде налогов, а еще 123 миллиона гривен, включая заработную плату президента, а до избрания – народного депутата Украины Петра Порошенко, было передано на благотворительные программы. Кроме того, согласно заявлению пресс-службы, предвыборная кампания Порошенко также оплачивалась из собственных средств Петра Алексеевича.

Но Порошенко избирался президентом, уже будучи одним из самых богатых граждан Украины. Об этом знали все – включая бомжей, подбирающих в урнах коробки от конфет «Рошен», чтобы сдать их в макулатуру. Значит, украинцы доверили свою судьбу одному из олигархов – людей ненавидимых (согласно логике белорусских депутатов и прокуроров) настолько, что упоминание об их доходах равнозначно наводке на ограбление?

А ведь кроме президента Украины опубликовали свои доходы практически все публичные персоны страны.

Один из самых популярных интернет-ресурсов страны – «Украинская правда» (та самая, которую когда-то создал убитый Георгий Гонгадзе) – подсчитал совокупные доходы украинского правительства. Восемь министров – в том числе премьер Арсений Яценюк – задекларировали доходы свыше одного миллиона гривен. Для современной Украины весьма значительная сумма. Всего же совокупный доход правительства составил около 63 миллионов гривен.

Гривен, а не белорусских рублей. Несмотря на серьезное снижение курса гривны, украинская национальная валюта не упала до уровня белорусской. И, вероятно, несмотря на ведущиеся военные действия, не так уж и скоро упадет.

Значительные доходы задекларировали также и депутаты Верховной Рады. Так, например, первый заместитель руководителя парламентской фракции «Блока Петра Порошенко», в прошлом бизнес-партнер Порошенко Игорь Кононенко заработал в 2014 году свыше 15 миллионов гривен. Об этом свидетельствует его декларация, с которой может познакомиться каждый желающий украинец.

Как и с декларацией любого другого депутата. На сайте Верховной Рады Украины вы можете увидеть, какая недвижимость находится у него в собственности, какой транспорт ему принадлежит, сколько денег и на каких банковских счетах хранится и по каким акциям он получает дивиденды.

То же касается всех членов правительства, губернаторов, руководства Администрации президента.

И толпы возмущенных украинцев вовсе не стоят при этом возле правительственных учреждений с требованием отправить в отставку всех этих весьма состоятельных людей. Напротив: волнует вовсе не сам факт состоятельности, а то, насколько выросли доходы самих чиновников и политиков и их семей с момента прихода их во власть.

Украинская пресса утверждает, что доходы многих из них упали. В том числе лиц, занимающих сегодня министерские посты и имеющих депутатские мандаты. При этом, если желаете, на тех же сайтах вы можете узнать, какие именно кредиты и под какой процент (и где, в каких финансовых учреждениях) получают эти господа и члены их семей. То есть если на втором году депутатства лицо, задекларировавшее годом ранее в собственности скромную квартиру в Белой Церкви или даже в Киеве, вдруг окажется собственником недостроенного особняка в престижном районе столицы или где-нибудь в пригороде да еще объяснит это получением кредита под 2% или даже под 5% годовых – вот тут-то скандал и начнется!

А пока его скандалить-то? Радоваться нужно, что президент не нищий и у него нет нужды воровать. А у его сына нет нужды брать взятки.

И, думаю, никто из всех этих вполне обеспеченных людей не опасается, что их придут грабить. Они просто – в отличие от белорусских таможенников, хранящих миллионы долларов в особнячке под ванной, – имеют счета в банках, которые не ограбишь.

Именно открытость деклараций о доходах государственных служащих всех уровней является сегодня наилучшей гарантией избирателя в борьбе с коррупцией. А свободная пресса, которая не просто перепечатывает эти декларации, но еще и сопоставляет их с предшествующими, профессионально анализирует соответствие расходов семей политиков и чиновников их доходам, своевременно оповещает общество: внимание – коррупционер выявлен!

И если отдельные депутаты (не будем обижать всех) и еще более отдельные прокуроры (тоже не будем тыкать пальцем, ибо среди прокуроров немало вполне приличных людей) нервничают из-за того, что граждане увидят их декларации, – какой из этого можно сделать вывод?

Я лично никакого вывода не делаю. Незачем. Я просто добросовестно уплатил налоги. Кто желает – проверьте. В пятницу, 10 апреля, гражданином Республики Беларусь А.И.Федутой по итогам 2014 года были перечислены пять миллионов триста две тысячи пятьсот рублей налога – в том числе с учетом гонораров, полученных мной в газете «Народная Воля». Не слишком много, но, как говорится, чем богаты...

Кстати, возможно, память меня подводит, но, помнится, когда-то публиковались декларации президента Беларуси, премьер-министра и ряда других должностных лиц. Ничего страшного не произошло тогда – правда ведь? Почему бы не вернуться к этой хорошей традиции? К тому же и Александр Григорьевич, по его словам, не возражает.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Как не подорвать здоровье на даче

Скоро дачный сезон. Для многих белорусов это не только возможность отдохнуть на свежем воздухе, но и необходимость работать на садоводческом участке. Как выиграть битву за урожай и не навредить собственному здоровью?

**Чем опасна «поза дачника»?**
**Как бороться с высоким давлением?**
**Что делать, если повышен холестерин?**
**Правда ли, что низкое давление не менее опасно, чем высокое?**

На эти и другие вопросы ответят заведующая терапевтическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ** и врач-терапевт высшей категории **Ирина Степановна ВИНОГРАДОВА.**



**Ирина Степановна ВИНОГРАДОВА**



**Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ**

Звоните сегодня **14 апреля с 15.30 до 17.00** по телефону **328-68-41.**
Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой «Прямая линия».

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Пачалася зачыстка?

Міліцыянеры канфіскавалі ўсю аргтэхніку ў Гомельскім грамадска-палітычным цэнтры па вуліцы Палескай, 52.

Ператрус доўжыўся каля дзвюх гадзін, у выніку чаго супрацоўнікі аддзела па наркакантролі Навабеліцкага раёна забралі чатыры сістэмныя блокі ад камп’ютараў і мадэм.

Падставай для агляду стала заява невядомага грамадзяніна, які нібыта атрымаў з электроннай паштовай скрыні праваабаронцы Леаніда Судаленкі відэаролік парнаграфічнага зместу.

Гэтае паведамленне, паводле сцвярджэння міліцыянераў, было адпраўлена з IP-адраса грамадска-палітычнага цэнтра.

Крымінальная справа па артыкуле 343 (Выраб і распаўсюд парнаграфіі) у дачыненні да праваабаронцы пакуль што не ўзбуджана, але праводзіцца праверка. На думку калегі Леаніда Судаленкі Васіля Палякова, напярэдадні выбараў сілавікі пачалі зачыстку палітычных апанентаў улады з канфіскацыі тэхнікі.

НАДВОР’Е

## Дождж, мокры снег...

*У Беларусі на гэтым тыдні чакаецца халаднаватае, ветранае і сырое надвор’е, прагназуюць сіноптыкі.*

У **аўторак і сераду** на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя ападкі (дождж, магчымы мокры снег). Тэмпература паветра ноччу складзе ад мінус 1 да плюс 4 градусаў, днём – 5–11 вышэй за нуль. У сераду па паўднёвым захадзе да плюс 13.

Чацвер можа стаць самым непагодлівым днём. У многіх раёнах чакаецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15–20 м/с, днём па паўночным усходзе да 23 м/с. Тэмпература паветра ноччу плюс 2–9 градусаў, максімальная днём – ад 6 да 12 цяпла, па поўдні – да плюс 16.

У канцы тыдня пачне паступаць яшчэ больш халодная паветраная маса з паўночных мораў.

У пятніцу 17 красавіка часам пройдуць ападкі, у асноўным дождж. Тэмпература паветра ноччу – ад 0 да плюс 7 градусаў, днём – плюс 5–12.

У выхадныя дні надвор’е істотна не зменіцца: часам ападкі (дождж, мокры снег). Тэмпература паветра ноччу складзе ад мінус 3 да плюс 3 градусаў, максімальная днём – плюс 4–10.

ПОСТАЦЬ



## Ён так любіў Беларусь...

Днямі споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага (1910–1988), геолага, географа, эканаміста, доктара геолага-мінералагічных навук, заслужанага дзеяча навукі, акадэміка АН БССР, стваральніка адной з буйнейшых у Савецкім Саюзе лабараторый геалогіі антрапагену.

Браты Гарэцкія, Максім і Гаўрыла, належаць да залатога пакалення беларускай інтэлігенцыі, што насуперак неспрыяльным, часам фатальным умовам здолела многа і годна папрацаваць для духоўнага адраджэння Беларусі, сцвярджэння яе як суверэннай этнічнай адзінкі ў агульначалавечай супольнасці.

Літаратурная і навуковая спадчына братоў Гарэцкіх знаходзіць належнае адлюстраванне ў працах навукоўцаў, сярод якіх даследаванні А.Адамовіча, Дз.Бугаёва, М.Мушынскага, Т.Голуб. У 1997 годзе быў створаны фонд братоў Гарэцкіх, які спрыяе штогадоваму правядзенню навуковых канферэнцый – Гарэцкіх чытанняў, выданню зборнікаў матэрыялаў з дакладамі вядомых літаратуразнаўцаў, філолагаў, геолагаў і географаў. Выдадзены шэраг кніг, сярод якіх: “Браты Гарэцкія”, “Лісты жыцця і кахання”, “Жыццёвы меланж” акадэміка Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага. Мне пашчасціла браць удзел ва ўкладанні і выданні кнігі “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі” да 100-годдзя з дня нараджэння майго шаноўнага настаўніка.

17 красавіка 2015 года ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску адбудуцца 23-я Гарэцкія чытанні.

Па сваім асабістым досведзе шматгадовай працы побач я магу засведчыць, што Гаўрыла Іванавіч быў шчырым патрыётам, які не шкадаваў сябе дзеля спраў на карысць роднай Беларусі. Ён і сам пісаў: *“Праца па вывучэнні геалогіі Беларусі – як мэта апошніх гадоў майго жыцця. Гэта – самае галоўнае, самае важнае, самае вялікае, самае значнае. У ахвяру гэтаму я нясу самога сябе, сям’ю, сваё каханне, усё!”.* У лісце да родных ад 19 снежня 1943 года ён пісаў: *“... Шляхі да мэты, розныя шляхі. Галоўны шлях – нацыянальнае адраджэнне, абуджэнне душы народаў, яго невычарпальных неўмiручых багаццяў, нацыянальнае свядомасці. А сродак гэтага абуджэння – росквіт эканомікі, індустрыялізацыя і ўрбанізацыя, спыненне эміграцыі, выгнання, бліскучы развітак сельскай гаспадаркі. Я толькі на паўдарозе.*

*(Заканчэнне чытайце на 2-й стар.)*

ЦЭНЫ

## Чаму так дорага?

Як змяняецца кошт прадукцыі ад фабрыкі да прылаўка?

Газета “Вячэрні Гродна” прасачыла гэта на прыкладзе прадукцыі мясцовай гароднінная фабрыкі. Лічбы сведчаць самі за сябе. Адразу зразумела, чаму прадаўцоў у нас значна больш, чым вытворцаў. Каментарыі, як кажуць, не патрэбныя.

| Прадукцыя | Закупачны кошт без ПДВ | Рознічны кошт | У гандлёвай сетцы |
|---|---|---|---|
| Агуркі | 20.000 | 26.400 | 32.000–35.000 |
| Зялёная цыбуля | 40.000 | 56.000 | 60.000 |
| Ліставая салата | 50.000 | 62.000 | 76.000 |
| Баклажаны | 44.000 | 52.000 | 71.000 |

